*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года

№ 2 (541) 9 СТУДЗЕНЯ 2002 г.

**3 снежня 2001 г. № 565**

**Сп. Я.Смірнову**
**Намесніку Старшыні**
**Вышэйшага Гаспадарчага Суда**
**Рэспублікі Беларусь**

Шаноўны спадар Смірноў!

ТБМ імя Ф.Скарыны ўдзячнае Вам за своечасовы адказ, зроблены на дзяржаўнай мове тытульнай нацыі нашай краіны. Нам таксама прыемна, што ў адрозненні ад некаторых іншых дзяржаўных устаноў, Вышэйшы Гаспадарчы Суд Беларусі мае звычку афармляць па-беларуску свае афіцыйныя канверты.

Мы таксама лічым, што ў адпаведнасці з артыкулам 204 Гаспадарчага працэсуальнага кодэксу, правы і інтарэсы нашай арганізацыі былі ўскосна парушаны рашэннем Суда аб закрыцці беларускай газеты "Пагоня". Тысячы чытачоў і падпісчыкаў газеты ўжо не могуць атрымліваць інфармацыю на дзяржаўнай мове тытульнай нацыі краіны. Такім чынам, рашэнне Суда парушыла той умоўны баланс роўнасці дзвюх дзяржаўных моваў у нашай краіне, аб якім так прыгожа казаў кіраўнік дзяржавы на апошніх прэзідэнтскіх выбарах.

На жаль, мы не маем фінансаваных сродкаў, каб аплаціць фінансавыя выдаткі пры падачы скаргі ў парадку нагляду па гэтай справе, але спадзяемся, што калі гэта робяць іншыя асобы, то Суд улічыць і нашую сітуацыю.

***З павагай,***
***Старшыня ТБМ А. А. Трусаў.***

**ВЫШЭЙШЫ ГАСПАДАРЧЫ СУД РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**
220050, г. Мінск, вул. Валадарскага, 8
Тэл./факс: (017) 227-16-41, (0172) 27-40-09



**ВЫСШИЙ ХОЗЯЙСТВЕННЫЙ СУД РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ**
220050, г. Минск, ул. Володарского, 8
Тел./факс (017) 227-16-41, (0172) 27-40-09

**Supreme Economic Court of Republic of Belarus**

**"17" 12. 2001 г.**
**№ 01-10 / 2139**

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"**
**Старшыні Трусаву А.А.**

На Ваша пісьмо № 565 ад 3.12.2001 г. паведамляем, што яно далучана да надзорнай скаргі, якая была пададзена газетай "Пагоня" на рашэнне па справе № 9-16 па зыску Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь да рэдакцыі газеты "Пагоня".

**Першы Намеснік Старшыні**
**Вышэйшага Гаспадарчага Суда**
**Рэспублікі Беларусь**

**Я. А. Смірноў**

**19 снежня 2001 г. № 568**

**Старшыні Гарадзенскага аблвыканкаму**
**сп. Саўчанку У.Я.**
**вул. Ажэшка, 3, г. Гродна 230023**

Шаноўны Уладзімір Ягоравіч!

Мы ведаем Вас як прыхільніка беларускай мовы і спадзяемся на Вашу непасрэдную падтрымку.

У адпаведнасці з Пастановай № 48 ад 27.08.2001 г. Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь (пп.1[3], ІІІ [1. 2]. V), прапануем Вам адкрыць з верасня 2002 года Нацыянальную беларускую гімназію ў Гродна, беларускамоўныя гімназіі ў гарадах Ліда, Навагрудак, Ваўкавыск і Слонім, а таксама адкрыць аддзяленні з беларускай мовай навучання ў вышэйшых навучальных установах г. Гродна.

Мы спадзяемся, што Вы з разуменнем ставіцеся да перадвыбарных абяцанняў кіраўніка нашай дзяржавы аб рэальнай роўнасці беларускай і рускай моваў у Беларусі.

Прыміце нашыя Навагоднія і Калядныя віншаванні.

**З павагай**
**Старшыня ТБМ Алег Трусаў.**

**Шаноўны сп. Алег Анатолевіч!**

Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны сардэчна віншуе Вас са светлым днём Божага нараджэння і з Новым годам!

Няхай гэтыя святочныя дні падораць Вам добры настрой, радасць і шчасце, станучь пачаткам новых творчых здзяйсненняў.

Скарынаўскі цэнтр заўсёды рады вітаць Вас у сваіх сценах.

**З павагай,**
**Дырэктар Любоў Уладыкоўская-Канапляннік**

## Касцюмы палешукоў стогадовай даўніны



Касцюмы палешукоў пачатку ХХ стагоддзя папоўнілі калекцыю Гомельскага абласнога краязнаўчага музея. Гэта святочныя строі жанчын з Калінкавіцкага і Петрыкаўскага раёнаў, са старажытнвага Турава.

**На здымку:** старшы навуковы супрацоўнік Ганна Краўцова і загадчыца музея Ганна Кузьміч з новымі экспанатамі.

**Фота Сяргея Халадзіліна, БелТА.**

Беларуская мова- ТБМ наша будучыня



### *Ахвяраванні на ТБМ*

1. Петрukовіч Васіль (Менск) – 5000
2. Казлоўская І.І. (Менск) – 800
3. Надзея Барт-Юрэвіч (Германія) – 50 DM
4. Ахвяраванні ўдзельнікаў VII з'езду БНФ "Адраджэнне" – 17856 р.
5. Ляўшукоў Алег (Менск) – 5000
6. Сафро М.З. (Маскоўская вобл.) – 5000
7. Сідлярэвіч Яўгенія (Мельбурн, Аўстралія) - 50 дол. ЗША.
8. Кароткі У.Г. – 1000
9. Запрудскі І.М. – 1000
10. Багдановіч І.Э. – 1000
11. Тарасюк Л.К. – 1000
12. Казанова Т.П. – 1000
13. Хаўстовы М.В. – 1000

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава 13, г. Менск, 220005, альбо пералічыць на разліковы рахунак **ТБМ** № 3015212330014 у Менскай гардырэкцыі ААТ Белбізнесбанка код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).

Нацыянальны дзяржаўны гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа запрашае на Дзень адчыненых дзвярэй, які адбудзецца падчас святкавання Угодкаў ліцэя 15 студзеня 2002 г. па адрасе: Менск вул. Кірава, 21 з 10 да 15 гадзін.

Запрашаюцца ўсе, хто жадае азнаёміцца з дзейнасцю унікальнай навучальнай установы.

## Беларускі праваслаўны каляндар на 2002 год выйшаў у Аўстраліі




Каляндар выдаецца каторы ўжо год БАПЦ і дасылаецца ў Беларусь абмежаванай колькасцю асобнікаў. Акрамя чыста каляндарных звестак каляндар утрымоўвае беларускія гімны і творы рэлігійнай тэматыкі.



№ 2 (541) 9 СТУДЗЕНЯ 2002 г. Наша слова

# План работы

**Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны" на 2002 год.**
**Прыняты 16.12. 2001 г. На пасяджэнні Рэспубліканскай Рады**

| № | Назва мерапрыемства | Тэрмін выканання | Адказны за правядзенне |
|---|---|---|---|
| 1. | Ушанаванне памяці ды святкаванне 120-х угодкаў народзінаў Янкі Купалы і Якуба Коласа. | Травень-лістапад | Сакратарыят, рэгіянальныя структуры ТБМ |
| 2. | Ушанаванне памяці ды святкаванні 110-х угодкаў народзінаў Браніслава Тарашкевіча. | Студзень | Сакратарыят, рэгіянальныя структуры ТБМ |
| 3. | Правядзенне семінараў: - гістарычнага ў г. Менску "Я магу жыць лепей" – на тэрыторыі Беларусі. | На працягу года<br>Студзень-люты | А.Анісім<br>С.Кручкоў |
| 4. | Арганізацыя курсаў па вывучэнні і ўдасканаленні беларускай мовы. | Студзень – чэрвень | Сакратарыят, абл. структуры ТБМ |
| 5. | Праца па стварэнні кампутарнай праграмы па кадыфікацыі і праграмы для праверкі арфаграфіі ў руска-беларускіх перакладах. | На працягу года | С.Кручкоў |
| 6. | Работа па пашырэнні кола падпісчыкаў на "Наша слова" і інш. беларускамоўныя газеты і часопісы. | На працягу года | Сакратарыят, першасныя суполкі ТБМ |
| 7. | Арганізацыя працы камісіяў ТБМ (праводзіць пасяджэнні 1 раз на месяц). | На працягу года | Старшыні камісіяў ТБМ |
| 8. | Асветніцка-педагагічная праца з бацькамі, дзеці якіх пойдуць у д/с і 1-ыя класы ў 2002-2003 навучалоьным годзе. | На працягу года | Бацькоўскі камітэт, адукацыйная камісія Сакратарыят |
| 9. | Абмеркаванне і прыняццё "Стратэгіі развіцця беларускай мовы". | Люты – лістапад | Рада ТБМ |
| 10. | Круглы стол: "Аб нацыянальнай тоеснасці мовы ў рэкламе і маркетынгу. Іх роля і значэнне". | Сакавік | Анісім, Стэпановіч, адпаведныя камісіі ТБМ |
| 11. | Круглы стол: "Мова і адукацыя, падручнікі і методыкі". | Красавік | Адукацыйная камісія ТБМ Сп. Дзіцэвіч, Кузьміч |
| 12. | Нарада прадстаўнікоў грамадскасці і СМІ на тэму "Беларускі нацыянальны універсітэт. Грамадскі клопат – дзяржаўная задача". | Красавік | Сакратарыят, сумесна з СП Беларусі |
| 13. | Круглы стол: "Беларуская мова. Інтэрнэт і кампутар". | Травень | Сакратарыят С. Крvчкоў |
| 14. | Міжнародны сімпозіум, які праводзіць СП Беларусі пад патранатам ЮНЭСКА: "Разнастайнасць моў і культур у кантэксце глабалізацыі". | 8-10 ліпеня | Сакратарыят сумесна з інш. дзярж. і грамад. арганізацыямі |
| 15. | Ушанаванне памяці і святкаванне 200-х угодкаў народзінаў Ігната Дамейкі. | Травень – ліпень | Сак-т, рэгіян. структ.ТБМ, Баранавіцкая рада ТБМ |
| 16. | Ушанаванне памяці і святкаванне 120-х угодкаў народзінаў Уладзіслава Галубка. | Травень – ліпень | Сак-т, рэгіян. Структ. ТБМ, Баранавіцкая рада ТБМ |
| 17. | Супрацоўніцтва з уладнымі структурамі па выкананні Пастановы Міністэрства адукацыі Беларусі (№ 48 ад 27.08.2001 г.) "Праграма дадатковых мер па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі". | На працягу года | Сакратарыят, рэгіянальныя структуры ТБМ |
| 18. | Правядзенне рэспубліканскага конкурсу "Лепшы руплівец роднага слова". | На працягу года | Абласныя рады ТБМ, Менская гар. рада ТБМ сумесна з СП Беларусі і адпавед. аддзеламі адукацыі рэгёнаў |

# БЕЛАРУСКІ КАМІТЭТ КАЛЕДЖАЎ МІЖНАРОДНАЙ СУПОЛЬНАСЦІ

Абвяшчае конкурс на атрыманне бясплатных стыпендый у Міжнародных каледжах у Нарвегіі і Італіі, а таксама на ўдзел у міжнародным семінары па прадпрымальніцтву "Бізнес-тыдзень" у Цэнтральным вашынгтонскім універсітэце (ЗША).

У каледжах выкарыстоўваецца сістэма міжнароднай перадуніверсітэцкай адукацыі IB (International Baccalaureate, Міжнародны Бакалаўрэат), разлічаная на два гады навучання. Дыплом IB дае права паступлення ў ВНУ большасці краін свету. У семінары "Бізнес-тыдзень" прымаюць удзел прадстаўнікі найбольш вядомых кампаній штата Вашынгтон, такіх як "Біопг", "Майкрасофт" і інш.

Галоўная мэта Каледжаў міжнароднай супольнасці – усталяванне ідэалаў міру, талерантнасці і супрацоўніцтва паміж моладдзю розных краін праз адукацыю. Кожны студэнт каледжа з'яўляецца прадстаўніком сваёй краіны і павінен як мага больш паведаміць пра яе сваім сябрам па вучобе больш чым са 150 краін. Таму, апроч трывалых акадэмічных ведаў, кандыдаты павінны выдатна ведаць беларускую мову, гісторыю і культуру Беларусі.

Узрост абітурыентаў – 16 – 17 гадоў (16 гадоў павінна споўніцца да 1 верасня 2002 г.).

Конкурс адбываецца ў тры туры. На першы тур абітурыенты павінны даслаць да 15 лютага 2002 г. заяву з пазначэннем свайго адрасу, кантактнага тэлефона і нумара школы, даведку аб стане здароўя, ліст паспяховасці за мінулы і гэты навучальныя гады, звесткі аб удзеле ў вучнёўскіх алімпіядах, мастацкай самадзейнасці, спартыўных секцыях, копіі грамат, дыпломаў, публікацыі ў прэсе і іншыя дакументы, якія сведчаць пра навуковую і творчую дзейнасць.

Пераможцы будуць выкліканы на другі тур, дата і ўмовы якога ім будуць дасланыя.

Камітэт запрашае ўсіх, каго зацікавіла гэтае паведамленне, наведаць прэзентацыю Каледжаў міжнароднай супольнасці і Бізнес-тыдня, якая адбудзецца падчас Дня адчыненых дзвярэй у Нацыянальным дзяржаўным гуманітарным ліцэі імя Якуба Коласа 15 студзеня 2002 г. у 14:20 па адрасе: 220050, Менск, вул. Кірава, 21. Тэлефон для даведак:

Дакументы на конкурс просім дасылаць на названы адрас з паметкай "Конкурс".

Камітэт шукае спонсараў для падтрымкі сваёй дзейнасці.

# Беларуская мова і мы

## (гутарка з маласвядомымі беларусамі)

У свеце, сцвярджаюць вучоныя, існуе 4200 моў, сярод іх толькі каля 500 моў належауь да развітых, вывучаных і даследаваных. Сярод такіх і беларуская. Але ў наш час шмат хто з беларусаў шукае адказу на пытанне: "Чаму беларусы не карыстаюцца роднай мовай у грамадскім абіходку, асабліва ў гарадскім асяроддзі? Магчыма, гэты артыкул зможа накіраваць чытача да правільнага адказу.

Я ўжо зараз адчуваю цябе, мой суразмоўца, Ты роспачна падумаеш: ды ці можна ў такі цяжкі для нас час жыць моўнымі праблемамі, калі іншых хапае па самае горла? Не спяшайся, шаноўны. А лепш паслухай.

Мова – гэта адбітак душы, у ёй адлюстраваныя "рытмы духу і цела" (г.зн., тэмпераменту) народа. Здаецца, усё ў цябе, мой чытач, павінна быць добра: у грамадскім месцы ты карыстаешся рускай мовай, дома часта таксама. Аднак чаму, бывае, ты не можаш прымірыцца сам з сабою, чаму ў душы разлад? А можа гэта спадчыннасць душы, яе гены патрабуюць ад цябе не крыклівага, выскамернага рускага слова, а ціхага, ласкавага, свайго, прыхільнага беларускага?

Шмат ведаю такіх прыкладаў, калі чалавек усё свядомае дарослае жыццё размаўляе па-руску, а ў сталым, шаноўным узросце, калі душа накіроўвалася да творчасці, пачынаў пісаць вершы па-беларуску. Родная мова быццам і не пакідала свет душы, яна свяцілася там, жыла і грэла сэрца з часоў маленства. А зараз адно ўспамінай і запісвай кожнае слоўка, такое эмацыянальна-ёмкае, падмацаванае сардэчнымі парываннямі. Так хораша, па-беларуску стварыў свае амаль 300 вершаў-песень былы настаўнік Алесь Іванавіч Пасько, жыхар нашага горада, ураджэнец вёскі Баравікі Слонімскага раёна.

А што ты ведаеш, мой шаноўны чытач, пра мову той зямлі, на якой жывеш? Здагадваюся, што мала ведаеш. Таму паслухай і запамятай, што запісаныя асаблівасці беларускай мовы сягаюць аж у УІІ стагоддзе. А жывая, вусная мова беларусаў узнікла значна раней. Вось што пісаў у 1918 годзе прафесар Мітрафан Віктаравіч Даўнар-Запольскі, беларускі гісторык, абвінавачаны ў "нацдэмаўшчыне": "Беларусы – гэтай, бадай, ядыны народ (мо толькі апрача палякаў), які з прадвечных часоў жыве ў сваёй старонцы, ніскуль сюды не прыходзіў, дык і не набраўся чужацкіх элементаў. З гэтай прычыны паводлуг сваіх гістарычных і этнаграфічных асаблівасцяў беларусы становяць найбольш чыстае славянскае племя, захаваўшае і зверхны выгляд славяніна, і шмат адзнак яго псіхікі і быту".

"Чаму я не ведаў гэтага?" – скажаш ты, мой чытач. Ды проста цябе ператварылі ў манкрута (у паўднёвых народаў так назвалі іншапляменца, якога пазбаўлялі памяці пра свой род: такі чалавек лёгка станавіўся здраднікам і знішчаў сваіх жа). Ты, мой чытач, пазбаўлены гістарычнай памяці, ты сарамліва апускаеш галаву, калі чуеш беларускае слова: табе ўбілі ў свядомасць, што яго можна толькі саромецца, што яно беднае, смешнае, каравае і вясковае. Але спашлемся на цытату з М.В.Доўнар-Запольскага: "Змагаючыся з беларускай культурай і яе прадстаўнікамі, расейскія ўлады – інстынктыўна ці мо і свядома – разумелі самабытнае значэнне гэтай культуры і баяліся яе". Значыць нашым нацыянальным прыніжэннем мы абавязаны ўціску з боку "найдужэйшай на свеце дзяржавы". Але нават і ў гэтых умовах беларускі народ не старціў сваёй нацыянальнай самабытнасці, у той час як цэлыя народнасці і культуры за гады савецкай улады проста зніклі. Беларусы ж у часы сталінскіх рэпрэсій страцілі 3 млн. чалавек (вучоных, літаратараў, сялян, інтэлігенцыі). Такія лічбы сустрэнем у друку. Так "памяркоўныя" беларусы расплачваліся за незалежнасць.

Дык што гэта за народ – беларусы? Гэта самабытны народ, якім Ты можаш ганарыцца. У яго слаўная мінушчына. Яшчэ ў ІХ стагоддзі святы Уладзімір заваяваў Полацк, але, так і не здолеўшы ўтрымаць яго ў пакорнасці, даў палачанам за князя свайго сына, унука Рагвалода . У ХІУ стагоддзі на захадзе беларускія землі ўтварылі высокакультурную дзяржаву. Усходнія беларусы пачалі далучацца да яе. З'яднаная дзяржава вызначалася высокім развіццём культуры, мела свае пісьменства і літаратуру, вяла абшырны гандаль з немцамі. "Ад канца ХІУ стагоддзя нават у Літве і Жмудзі большая частка жыхароў ужывала старабеларускую мову, а ў судах і адміністрацыйных установах беларуская мова была абавязковая, як урадавая. Не толькі практыка, але і закон прызнаваў дзяржаўнасць і абавязковасць беларускай мовы. Толькі дэкрэтам 1697 г. яе замяніла польская мова". У Літоўскай дзяржаве панавалі дэмакратычныя ідэі, падмацаваныя Літоўскім Статутам (1588), які меў сілу да 1840 года. У 1795 годзе Беларусь была далучана да Расіі. Дэмакратычныя ўстоі на Беларусі палохалі царскую Расію, таму ў межах былой Расейскай імперыі не было другой старонкі, да якой царскі ўрад адносіўся б гэтак сурова, як да Беларусі". Быў зачынены Віленскі беларускі універсітэт, Полацкая акадэмія, беларусам адмаўлялі ў праве мець вышэйшую школу на роднай мове.

Асабліва ўзмацніўся нацыянальны ўціск на Беларусі ў 60-ыя гады ХІХ стагоддзя ў перыяд губернатарства графа М.Н.Мураўёва, празванага ў народзе "вешальнікам". За кіруючых чыноўнікаў паўсюдна назначалі вялікарусаў (рускіх), быў выдадзены загад, каб беларусаў не назначалі біскупамі, (Ды і сёння гэтая практыка мае месца ў нашым жыцці, бо рэдка можна напаткаць начальніка – беларуса. А калі такія сустракаюцца, дык служаць на карысць Расіі, бо ніколі і нідзе не ўжываюць беларускае слова. Хаця з кожнага правіла ёсць выключэнні).

Некалі граф М.Н.Мураўёў падкрэсліваў, што трэба на Беларусі ствараць такія ўмовы, каб кожны беларус адчуў сябе на гэтай зямлі чужаземцам, а рускі пачуваўся так, як быццам ён жыве ў Расіі. Я.Купала пазней назаве свой край "забраным". Ці не тое самае адбываецца ў Рэспубліцы Беларусь зараз, калі ідуць масавыя звальненні працоўных? Каго "скарацяць" на працы ў першую чаргу? Вядома, тых, хто не "начальства". А гэта беларусы. Яшчэ тых, хто ў свой час стаў на абарону роднай мовы, культуры, сумленна служыў ёй. Ці не пачынае праз такія захады камандна-адміністрацыйная сістэма новую хвалю рэпрэсій супраць беларусаў?..

Усё гэта вымушае ад дэмакратаў намаганняў па аб'яднанні сіл, якія наталяюцца вераю ў тое, што глыбінныя дэмакратычныя сілы народа Беларусі змогуць уваскрэснуць да жыцця, каб перамагчы і даць волю роднай мове ў нашым краі, каб вярнуць народу яго душу – беларускую мову. А зараз – размаўляйма ўсюды па-беларуску! І Яна буджзе жыць. А з Ею і мы.

***Т. Трафімчык,***
***старшыня Слонімскай суполкі ТБМ.***





# Чаму беларусы не размаўляюць па-беларуску?

***Не так даўно па ініцыятыве першага намесніка старшыні ТБМ Людмілы Дзіцэвіч мы пачалі друкаваць адказы студэнтаў розны ВНУ на гэтае сакраментальнае пытанне. Сёння мы прапануем думкі Адаркі Саленік, студэнткі ЕГУ.***

Свядомасць беларускага народа перафармоўвалася і "перафарбоўвалася" праз усю гісторыю, як і сама гісторыя, якую перакройвалі ўсе, хто толькі ні дабіраўся да ўлады. Аднак прыйшло XXI стагоддзе і, здаецца, паставіла ўсё на сваё месца. І адразу мы, каму прачысцілі мазгі на школьным курсе "Чалавек і грамадства", усе, як адзін, лічым, што мова – адзін з найпершых і найважнейшых атрыбутаў народа. Гэтак сама і суверэнітэт з'яўляецца асноўным элементам дзяржавы як формы арганізацыі соцыуму. Аднак пры адсутнасці сувэрэнітэту мы адмаўляем наяўнасць дзяржаўнасці. Што ж тады рабіць пры адсутнасці ў народа сваёй мовы, ці трэба яму адмаўляць у існаванні? А ці ёсць у нас свая мова? Здаецца, што так. Яе статус замацаваны ў асноўным законе Рэспублікі. Яна жыве на старонках кніг, газет, падручнікаў, слоўнікаў, час ад часу звініць у спевах; дзе-нідзе мы бачым яе на шыльдах. Некалькі дзён таму я нават бачыла рэкамендацыю да ўжытку і апісанне інградыентаў на беларускай мове (!) на ўпакоўцы імпартовага тавару. Але мова не гучыць з вуснаў яе так званых носьбітаў. Паўстае пытанне: ці сапраўды існуе мова, якая не гучыць, якой не карыстаюцца? Балюча глядзець, як занепадае мова, як яна выраджаецца ў выглядзе знакамітай "трасянкі", як яе марна спрабуюць падтрымаць праз сродкі масавай інфармацыі. Чаму ж беларус, якому, здаецца, у рукі ўкладаюць родную мову, за якую ён так доўга змагаўся, не хоча браць яе? Чаму беларус не размаўляе па-беларуску?

Гэта пытанне складанае па сваёй сутнасці, вельмі мала даследаванае, але, на шчасце, яно яшчэ не зрабілася рытарычным. На яго можна прывесці шмат розных адказаў, і кожны з іх будзе правільным, бо ўсе яны адлюстроўваюць шырокую, шматгранную карціну гэтай праблемы.

На маю думку, пытанне патрабуе розгляду на трох асноўных узроўнях: індывідуальным (узровень кожнага носьбіта мовы са спецыфікай свайго асяроддзя), сацыяльнай групы (дзе карыстанне або некарыстанне мовай з'яўляецца Карпаратыўнай нормай), усяго народа і дзяржавы (дзе мова надзяляецца пэўным статусам). Фундаментальны разгляд праблемы начынаецца з індывіда, бо ён – першасны суб'ект інтэрперсанальных (а значыць і моўных) зносін. Актыўнасць і інтэнсіўнасць карыстання мовай на кожным узроўні сацыяльнай арганізацыі залежыць ад актыўнасці індывіда. Менавіта ён фармуе сваё моўнае асяроддзе. Вывад адсюль даволі просты: хочаш вырашыць праблему ў маштабах народа – пачынай змены ў сябе.

Чаму я не размаўляю па-беларуску? Дык, здаецца, рада была б паразмаўляць, бо дастаткова валодаю ёю (гэта мая мова, у рэшце рэшт!). Але дзе і з кім? Першаснае моўнае асяроддзе – сям'я – русіфікаванае, бо бацька хоць і беларус, як кажуць, "чыстакроўны", але мовы сваёй не ведае: ён – ахвяра савецкай партыйнай моўнай палітыкі ў адносінах да беларусаў. А маці наогул не беларуска: трапіла ў краіну па студэнцкім размеркаванні. Абодва могуць толькі чытаць. Што ж датычыцца мяне, я вучылася ў гімназіі імя Ф. Скарыны, дзе валодаць мовай было справай гонару. Да апошняга часу там існаваў адмысловы культ мовы, і кожны з нас быў запалены гэтай ідэяй. Прыбягаючы дадому, я, натура ініцыятыўная і лёгкая на пад'ём, патрабавала каб бацькі размаўлялі са мной, "на маёй мове". Мы арганізавалі ў сям'і дні беларускай мовы і размаўлялі толькі на ёй. Але кожны з нас ведаў, што ў рэшце рэшт гэта толькі гульня, і толькі мы выходзілі з дому, як трэба было зноў пераходзіць на мову рускую. Тым не менш, бацькоў гутарковай мове я ўсё ж такі навучыла – двума носьбітамі стала больш.

Я памятаю, у гімназіі рабіліся спробы пераходу да беларускамоўнага навучання па некаторых прадметах, напрыклад, гаметрыі. Мы нават пачалі займацца па падручніках Н.М.Шлыкава па стэрэаметрыі, складзеных на беларускай мове. Стэрэаметрыя – раздзел геаметрыі, даволі насычаны спецыяльнай тэрміналогіяй, і ўжо праз тыдзень мы амаль усе былі ў "лінгвістычным шоку": тэрміны ў падручніку не былі прамым перакладам з рускай, а браліся невядома адкуль, што само па сабе і добра, і дрэнна. Дрэнна, таму што нам, вышкаленым па пагарэлаўскай планіметрыі, патрэбна было перакладаць кожную задачу, каб зразумець яе. Добра, таму што ўсё ж такі ў беларускай мове распрацавана ўласная спецыяльная лексіка, і не толькі ў геаметрыі, што сведчыць аб даволі высокім узроўні мовы. Вывад з гэтага адзіны: дастаткова распрацаванай мовай трэба карыстацца, але ўводзіць спецыяльную лексіку ва ўжытак трэба з самага пачатку навучання, каб забяспечыць пераемнасць, каб не было такіх скокаў з рускай тэрміналогіі на беларускую, якія канчаюцца бясконцымі перакладамі. Вывучаць прадмет, які сам па сабе складаны, тэарэтычна насычаны, на мове, якая не з'яўляецца размоўнай, цяжка. Навучэнцы, як высветлілася, вельмі баяцца гэтага. Таму трэба, каб навучальны працэс ішоў на адной мове праз усе ўзроўні – з першага класа да заканчэння ВНУ, і ў дадзеным выпадку перавага павінна аддавацца беларускай.

Адсутнасць "моўнай" пераемнасці паміж рознаўзроўневымі навучальнымі ўстановамі, відавочна, з'яўляецца адной з прычын непапулярнасці беларускай мовы сярод моладзі. Як выявілася, беларуская мова выкладаецца ў школах марна, бо пры паступленні ў ВНУ неабходнасць ведання яе адпадае. Гэтаму спрыяе яшчэ і наяўнасць выбару мовы (паміж беларускай і рускай) пры напісанні пісьмовых работ абітурыентамі. Але ж гэта нельга разглядаць толькі як недахоп моўнага рэгулявання з боку дзяржавы, а яшчэ як вынік свабоднага волевыяўлення грамадзяна Рэспублікі – выбару дзвюх моў у якасці дзяржаўных. Што ж пабудзіла кожнага грамадзяніна з той большасці, што прагаласавалі "за", зрабіць менавіта такі выбар?

Калі не абстрагавацца ад гістарычна-палітычных фактараў уплыву на цяперашні стан мовы і свядомасці народа, то гэта можна растлумачыць тым фактам, што амль кожны з нас нарадзіўся і вырас у рускамоўным асяроддзі. Я многа думала пра гэта: ці ўплывае мова на фармаванне свядомасці чалавека. Па логіцы рэчаў, вынікае, што так. Калі немаўлятка прыходзіць у гэты свет, яно адразу сутыкаецца з пазамоўнай рэчаіснасцю. Яго абкружае свет, поўны прадметаў, якім трэба даць імя. І дзіця дае ім імёны – імёны, якія яму падказвае маці, рускія назвы прадметаў. У гэтых суадносінах: "прадмет – слова – прадмет, названы словам – адзінства прадмета і слова ў паняцці" – навакольнае асяроддзе адбіваецца ў свядомасці дзіцяці і фармуе яго светаўспрыманне ў адзінстве з мовай. Таму справядліва будзе сказаць, што мову мы ўбірае з матчыным малаком. Таму так цяжка і ненатуралёва для некаторых ужываць беларускую мову ў штодзённым жыцці ці ў навучанні. Справядлівай здаецца думка Гумбальта, што, пераходзячы на іншую мову маўлення, трэба пераходзіць на іншы узровень свядомасці і мяняць вугал погляду на рэчаіснасць, каб ён стаў з тым, што маюць натуралёвыя носьбіты. Чым болей гнуткая свядомасць, тым лягчэйшы пераход на іншую мову. У нашым жа выпадку псіхалагічную цяжкасць уяўляе тое, што нам патрэбна пайсці з "нянашага" светапогляду, так званага "саўковага металітэту", гэтак моцна прывітага нам, да роднага, беларускага. "Саўковасць" і прысутная ей пасіўнасць замаруджвае гэты працэс пераходу, вяртанне да мовы. Гэты "сон розуму і волі", звычна выконваць загады з верху павінны улічвацца пры правядзенні прагрэсіўнай моўнай палітыкі. Інакш гэта не прывядзе да патрэбных нам вынікаў.

Нядзіўнымі, на мой погляд, з'яўляюцца вынікі рэферэндуму па моўным пытанні, праведзеным у 1995 годзе, калі родную мову ўраўнялі ў статусе з рускай. Нельга сцвярджаць, што беларусы адмовіліся ад сваёй мовы. Не. Гэтыя вынікі абумоўлены ўсім ходам гісторыі (каланізацыі, русіфікацыі, моўнай канвергенцыі) – гэта па-першае, а па-другое, я лічу, што спрацаваў механізм ахлакратыі і канфармізму, як пабочны прадукт савецкай эпохі ў нашай свядомасці. Я ўпэўнена, што калі такі рэферэндум быў бы праведзены гадоў на дзесяць-пятнаццаць пазней (калі ўжо ўмацавалася больш менш практыка дэмакратычных працэдур; калі мы ўжо здольныя ў нейкай ступені асэнсаваць сваю культурную і гістарычную спадчыну; калі носьбіты больш прагрэсіўных і радыкальных поглядаў дасягнулі ўзросту поўнай праваздольнасці), вынікі былі б іншыя. З іншага боку аб'явіць беларускую мову адзінай дзяржаўнай было б праяўленнем "вялікадзяржаўнага шавінізму" і даволі непрадуманым крокам у плане фінансавання і здольнасці самой мовы абслугоўваць усе сферы жыцця грамадства. Таму ў вырашэнні моўнага пытання патрэбен эклектычны ювелірны падыход.

Тое, што мы зараз спрабуем зрабіць, - гэта прыцьміць вынікі працяглай русіфікацыі і іншых з'яў; але, прабачце, гэта тое самае, што без перапынна надзімаць праколатую шыну. Трэба найперш ліквідаваць прычыну, а не наступства, трэба перш-наперш заклеіць дзірку, а потым надзімаць. Такім чынам, наша мэта – вызначыць прычыну адмаўлення беларусаў ад мовы (што я і спрабавала зрабіць вышэй) і потым вызначыць, як яе ліквідаваць.

Пытане: як абудзіць цікавасць да роднай мовы? – пакуль для мяне застаецца нявырашальным, бо я валодаю даволі абмежаваным аб'ёмам інфармацыі. Але асноўным прынцыпам праграмы вырашэння моўнага пытання, на маю думку, можна вызначыць дэвіз ААН: "Euery person counts", - пачынаць трэба з індывіда, арыентаваць яго ўвагу на самаго сябе, як прадстаўніка нацыі, самабытнай культуры, каб ён усвядоміў небяспеку растварыцца ў "мульцікультур'і" у той час глабалізацыі, перад якой зараз стаіць яго народ.

*Адарка Саленік, студэнтка 1 курса ЕГУ.*

# КОНКУРС ШКОЛЬНЫХ І ВУЧНЁЎСКІХ ГАЗЕТ

Пад канец года былі падведзены вынікі конкурсу, які абвяшчаўся яшчэ ў пачатку лета. Журы працавала ў наступным складзе: Наталля Кузьміч, кандыдат філалагічных навук з факультэта журналістыкі БДУ і газеты "Пераходны ўзрост"; Аляксей Рагуля, прафесар БДПУ; Таіса Лысова, намеснік галоўнага рэдактара "Раніца"; Крысціна Вітушка, лідэр ЗБС; Алесь Наварыч, пісьменнік, супрацоўнік часопіса "Бярозка"; Наталля Мацукевіч, рэдактар студэнцкай газеты "Ганак" (БДПУ); Ірына Кулікоўскіх з "Настаўніцкай газеты"; Алесь Міхалевіч, старшыня Моладзевага інфармацыйнага цэнтра; Алесь Лозка, прэзідэнт ТБШ; Міхась Круталевіч, аўтар падручнікаў па беларускай мове і дэкан факультэта народнай культуры БДПУ.

Да гонару педагагічнага ўніверсітэта неабходна заўважыць, што апошнім часам самыя значныя мерапрыемствы ТБШ праводзіла сумесна з гэтай уплывовай навучальнай установай. Свята тут атрымалася і цяпер. На яго былі запрошаны атрымальнікі дыпломаў першай і другой ступеняў, вучні бліжэйшых школ, якія пазнаёміліся з творчымі майстэрнямі і кабінетамі факультэта, парадаваліся выступленню ўніверсітэцкага ансамбля музыкі і танца, пачаставаліся кавай.

Свята, безумоўна, прывабіла журналістаў. Асвячала цікавую падзею нават сталічнае тэлебачаннее. У розны перыяд змяшчалася інфармацыя конкурса на старонках "Настаўніцкай газеты" "Комсомольской правды", "Народнай волі", "Нашага слова", "Бярозкі", "Пераходны ўзрост", радые і інш. Асаблівую ўвагу асвятленню важнай падзеі аказаў наш даўні сябар "Раніца". Усім вялікае дзякуй!

Пры вызанчэнні пераможцаў журы кіравалася тым, як малыя інфармацыйныя сродкі асвятлялі пытанні краязнаўства і надзённыя праблемы свайго рэгіёна, школы. Тут першынствавалі скаўцкія выданні. Нечакана, але прыемна перамога на Барысаўшчыне, самай багатай на недзяржаўныя СМІ, школьнага рукапіснага часопіса "Маладзічок" СШ 24 г. Барысава (Настаўніца Людзміла Лапянок). Акрамя асноўнага падарунка маладзічкоўцы атрымалі льготныя пуцёўкі ў Чэхію. Усе атрымальнікі дыпломаў першай і другой ступеняў сталі і ўладальнікамі фотаапаратаў, дыктафонаў, паперы для выданняў, льготных пуцёвак за мяжу. Асобныя прызы атрымалі разам з дыпломам трэцяй ступені калектывы выданняў "Сьвятаяньнік" (Вішнявецкая СШ Стаўбцоўскага раёна), "Акусцік" (СШ 3 г. Вілейкі), "Сябрына" (СШ 60 г. Менска). Выказваем падзяку нашым фундатарам.

З 31 газеты, прадстаўленай на конкурс, толькі адна рускамоўная. Некалькі дзвюхмоўных. Астатнія школьныя газеты выходзяць на беларускай мове, што можа толькі цешыць і даваць станоўчы прыклад для дарослых газет.

*Паводле бюлетэня ТБШ.*



*Беларускія архетыпы*

# Зайграй жа мне, дударочку...

*На дудзе, на самагудзе*
*/А дуда—як веча звон/*
*Духам кліч*
*пускае ў людзі—*
*Песня ў песню, тон ў тон.*

Так вялікі беларускі песняр Янка Купала ў вершы "Дудар" /1910/ апяваў гучанне музычнага інструмента—дуды, які вякамі ўвасабляў нязломны беларускі дух, паэтычнасць і ўзнёсласць душы беларуса. Цікава, што Купала ў вобразе музыкі-дудара выводзіў не толькі носьбіта старажытных народных традыцый, але і постаць захавальніка народнай мудрасці і летапісца старажытнай гісторыі нашага народа. Нагадаем, што верш з'віўся ў пачатку XX стагоддзя. А ўжо напрыканцы яго энцыклапедычныя даведнікі сцвярджалі: "Апошняе выкананне на дудзе зафіксавана ў Полацку ў 1951 г."/ "Этнаграфія Беларусі" ст. 183/. Але тут нешта не сходзілася, бо, напрыклад, у Музеі старажытнабеларускай культуры захоўваецца асобнік дуды, выраблены майстрам з Чэрвеня І. Лычкоўскім ў 1970-х гадах / Каталог экспазіцыі, 1983г./. Цяжка ўявіць сабе майстра, які б ствараў дуды не для грання, дый сам не валодаў сакрэтамі выканаўчага майстэрства дудароў мінулага. Значыць, традыцыя не перарывалася значна даўжэйшы час, чым цвердзяць афіцыйныя крыніцы. А таму, відавочна, існуюць усе падставы для адраджэння старадаўняй традыцыі грання на гэтым унікальным інструменце.

Напэўна, так, ці трохі інакш, разважаюць сёння тыя, хто імкнецца вярнуць у нашу свядомасць, у наш музычны побыт гэты цудоўны, ні з чым не параўнальны па гучанню беларускі інструмент—дуду. Але на гэтым шляху піянераў сучаснага грання на дудзе чакае шмат праблем, нечаканасцяў і адкрыццяў... Пра іх і пра шмат што іншае, датычнае гісторыі беларускай дуды, мы сёння размаўляем з мастаком, адным са стваральнікаў Цэнтра этна-касмалогіі "Крыўя", даследчыкам беларускай дуды, выканаўцам Тодарам Кашкурэвічам.

***-- Спадар Тодар, распавядзіце, калі ласка, пра гісторыю дуды ў Беларусі: адкуль яна прыйшла на нашыя землі, у якіх выпадках яна выкарыстоўвалася, якія сакральныя функцыі, калі такія былі, яна выконвала?***

-- Дуда ў Беларусі была вельмі сімвалічным інструментам. Усё XIX стагоддзе, дый і ў пазнейшыя часы, тагачасныя пісьменнікі ўзносілі дуду да ўзроўню сімвала. Нават псеўданімы сабе выбіралі адпаведныя, кшталту, "Беларускі дудар" /А.Вярыга-Дарэўскі, назву інструмента выкарыстоўвалі і для стварэння запамінальных вобразаў, выдавалі кнігі з назвамі "Дуда", "Дудар Беларускі"...

А быў распаўсюджаны інструмент і ў больш раннюю эпоху па ўсёй тэрыторыі Беларусі /ёсць выпадкі фіксацыі дуды ў XVI-XVII стагоддзях і ў Пінску, і ў Слуцку/, а ўжо ў XIX стагоддзі—збольшага на тэрыторыі Паўночнай Беларусі.

Наконт таго, адкуль прыйшла дуда, то міфалагічныя матэрыялы, звязаныя з гэтым інстументам, сведчаць пра тое, што дуда якраз ніадкуль не прыйшла! Увогуле, такое пытанне адносна дуды, некарэктнае, бо вельмі часта ў нас даследчыкі і розныя зацікаўленыя людзі пытаюцца пра тое, адкуль тая ці іншая з'ява прыйшла. А вось ніадкуль не прыйшла, як і людзі, што насяляюць нашую краіну. Паводле беларускіх міфаў, наш народ жыве тут ад пачатку свету. Прынамсі, так пра тое сведчаць міфы і... антраполагі, якія сцвярджаюць нязменнасць фізічнага тыпу беларусаў, найменей ад эпохі каменнага веку. Тое ж самае і з дудой.

Увогуле ж, дуда не зусім музычны інструмент, такі як, напрыклад, цымбалы, ці скрыпка, бо яна настолькі шчыльна ўпісана ў рытуальную і абрадавую практыку дахрысціянскіх часоў, завязана на беларускім каляндары, на каляндарных святах і святах жыцця /народзіны, вяселле, пахаванні/, што навуковец, які рэканструюе паводле гэтых фактаў яе міфалогію, прыходзіць да высновы, што дуда ўзнікла ў самыя старажытныя часы і з'яўляецца ў пэўны сэнсе "рэінкарнацыяй" ахвярнай жывёлы—казы альбо казла, якую прыносілі ў ахвяру на Каляды. Зафіксавыны тэксты, ў якіх пра гэта літаральна гаворыцца: "Не бойся, козачка, стральцоў-малайцоў, а бойся дзеда старога, ён цябе забіе, шкуру злупя, дуду пашыя." Менавіта гэтая каза, ці, у пазнейшыя часы, ражаны, скамарох, што выпраўжаўся ў казу пад час калядных абыходаў і якую тэатральна забівалі, безумоўна, і ёсць ахвяра, з якой рабілася дуда і на якой гралі на святы. Таму гэта быў інструмент, што меў найвышэйшы сакральны статус, як рэч, зробленая з ахвярнай жывёлы.

Дуда выкарыстоўвалася ў абрадах, звязаных з асноўнымі момантамі жыцця чалавека. Абавязковым была прысутнасць дудара на хрэсьбінах (рытуальнае нараджэнне), на вяселлі (рытуальнае пераўвасабленне ў статус дарослага, сталага чалавека), ну і, магчыма, на пахаванні (рытуале пераходу чалавека ў іншы свет, прынамсі, летапісныя матэрыялы пра гэта даюць згадкі. Пра сакральны статус інструмента сведчаць касмаганічныя дударскія тэксты, у якіх у пэўных сімвалах апісваецца пабудова свету, як яе разумелі нашы прашчуры. І дуда, і дудар там прысутнічаюць і займаюць істотнае мейсца. Гэта ўнікальная з'ява ў Еўропе, бо ні ў воднай традыцыі, дуда так не міфалагізаваная, як ў Беларусі.

Нажаль, да нас не дайшло амаль аніякіх фактаў пра тое, як дуда гучала, якая была манера грання, хаця апошнія музыкі-дудары жылі не так даўно. Гэта мы высветлілі падчас экспедыцый з маім сябрам і калегам А. Ласём, якія мы ладзілі ў 1999-2000 гадах. Беларускія этнамузыказнаўцы "пахавалі" дуду яшчэ ў даваенным перыядзе, а самі не далі сабе справы гэта праверыць і мэтанакіравана прайсціся з экспедыцыямі па тэрыторыі Беларусі.

***-- Спадар Тодар, ці укладываўся сакральнасімвалічны сэнс ў вобраз інструмента ?***

-- Так, безумоўна. Тут можна гаварыць пра асобу дудара з дудою, як пра адпаведнікаў пэўнай міфалагічнай пары. Гэта магчыма ў такім выглядзе: сам дудар атаясамляўся з Грамоўнікам, Пяруном, а дуда-каза з гаспадаром падземнага свету Вялесам, што часта ўвасабляўся ў казлападобнай іпастасі. І тут мы бачым, як спачатку Пярун рытуальна забівае казу, робіць з яе дуду падчас Калядных святаў (узгадайма песню "Саўка ды Грышка ладзілі дуду...", так і потым грае на гэтым інструменце, дудзіць, што, безумоўна, уяўляецца само па сабе сакральным актам. Тут дарэчы будзе сказаць, што адна з дыялектных формаў назову музыкі-дудара гучыць, як ДУНДАР, што перагукаецца з літоўскім эпітэтам бога-грамоўніка – DUNDULIS, ад dundeti "грымець", і з назовам таго ж бога ў старажытных германцаў – DONNER. Таму можна дапусціць, што ў старажытнасці дудары маглі быць часткай жрэцкай / валхвецкай/ карпарацыі, былі адным з валхвецкіх станаў.

Матэрыялы па гэтай тэме сведчаць пра тое, што акрамя інстытуцыянальных абавязкаў, валхавец мог займацца і рамёствамі: быць пчаляром, кавалём, шаўцом... Бо ўсе гэтыя старажытныя тэхналогіі маюць у аснове сваёй сакральнае значэнне—пераўтварэнне нейкай прыроднай стыхіі ў элемент космаса. Без сумневу, дудары былі гэткімі беларускімі магамі—валхаўцамі, практыка, якіх мае шмат супольнага з тэхнікамі шаманізму. Пра гэтае сведчаць дударскія тэксты, поўныя магічнага сімвалізму і сакральнасці.

***-- Ці засталіся ў Беларусі аўтэнтычныя дудары, якія маглі б перадаць зацікаўленым гэтай з'явай асобам свае навыкі, ці памятаюць беларусы такі інструмент—дуду?***

--Нажаль, у Беларусі аўтэнтычных дудароў не засталося. Апошнія музыкі памёрлі 30-40 гадоў таму. Ад былой велічнай традыцыі застаўся толькі адзіны нотны запіс дудовага найгрышу. І гэта для тых, хто займаецца рэканструкцыяй традыцыі з'яўляецца сапраўднай трагедыяй. Бо на якой падставе аднаўляць манеру выканання на дудзе? Кожная традыцыя мае вельмі характэрныя тэхнікі выканання. Узяць выканаўцаў з Шатландыі, з Ірландыі, Балгарыі, Чэхіі, Польшчы, то манеры грання іх розняцца, як неба і зямля! А ў тэхніцы грання, як нідзе праяўляецца душа, тэмперамент, псіхалогія народа.

Даводзіцца шукаць адказы на гэтыя пытанні ў розных месцах. Мы аналізуем манеры грання, уласцівыя суседнім традыцыям. А вось мой сябар і калега Аляксандр Лось знайшоў сляды дударскага грання ў некаторых узорах народнай скрыпічнай традыцыі. Незвычайная насычанасць фаршлагамі, наяўнасць бурдону, неўласцівая для скрыпічнай тэхнікі пастаноўка пальцаў і іншае. У справе рэканструкцыі беларускай традыцыі сёння мы рухаемся і ў гэтым кірунку.

З А. Ласём у 1999-2000 гадах мы зладзілі тры экспедыцыі з мэтай відэафіксацыі слядоў дуды на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Мы запісалі ўспаміны людзей, ў свядомасці якіх захаваўся вобраз гэтага інструмента. Такога ўнікальнага матэрыялу мы запісалі аж 18 гадзін, што дастаткова для стварэння паўнацэннага дакументальнага фільма.

Для ўсіх тых, хто займаецца рэканструкцыяй і вырабам саміх інструментаў вельмі важна мець узоры, паводле якіх гэтыя інструменты ўзнаўляюцца. У Беларусі даставерна існуюць два асобнікі аўтэнтычных дудаў. Адзін знаходзіцца ў Лепелі /інструмента, што належыць да мясцовай лепельскай школы вырабу дудаў—з вытанчаным эстэтычным выглядам, з аздобай металам/ і інструмент, які знаходзіцца ў Горадні. Большасць інструментаў , характэрных для Беларусі, знаходзяцца ў музеях Літвы, Латвіі, Расіі /хоць расіяне не мелі такога тыпу дудаў /. Мэтай майго даследу, а пасля і кнігі, з'яўляецца фіксаванне і стварэнне каталогу ўсіх інструментаў, якія знаходзяцца ў музеях гэтых краін, а, таксама, мартыралогу ўсіх вядомых нам беларускіх дудароў.

Пасля завяршэння нашых экспедыцый можна сказаць, што ў Беларусі з'віўся і трэці аўтэнтычны інструмент. І адбылося тое з нязусім вясёлымі эмоцыямі. Гэтая дуда захоўвалася да 1997 года ў доме сваякоў музыкі Квецькі Сцеся, які быў вельмі вядомым у наваколлі і, нават, быў да вайны запрошаны граць на ВДНГ у Маскву. Але ўнук музыкі выкінуў рэліквію на сметнік, калі пераносіў дзядоўскую хату на новае месца. Учынак ганебны не толькі ў дачыненні да нашай спадчыны, але, перадусім, ў дачыненні да свайго рода. Бо гэта непавага да сваіх асабістых каранёў. Чалавек мог перадаць інструмент у музей, як гэта зрабілі нашчадкі дудара ў Лепелі, але...

І тым не менш, мы адшукалі рэшткі гэтай унікальнай дуды! Яна ўяўляе сабой такі рэдкі "брутальны" тып інструмента з вялізарным рагаўём, абабіты каванымі металічнымі палосамі з шыпамі. Гэтая знаходка пацвердзіла інфармацыю этнографаў XIX стагоддзя пра тое, што інструмент мог паслужыць дудару і ў больш празаічных мэтах: пад час боек на вяселлях той мог выкарыстаць сваю "каханую" ў якасці зброі для абароны.

Знаходка навяла нас на думку ствараць такі ўзор heavy-metal-дуды, які можна было б выкарыстоўваць у праектах, звязаных з экстрэмальнымі плынямі беларускай рок-музыкі.

***-- Дык у чым жа вам, спадар Кашкурэвіч, бачыцца асноўнае адрозненне беларускай дуды ад аналагічных інструментаў краін-суседзяў?***

-- Трэба сказаць, што амаль кожная еўрапейская, часткова азіяцкія краіны, фіна-угорскія народы мелі свой тып дуды. Агульнай рысай гэтага інструмента з'яўляецца рэзервуар для паветра—скураны мяшок, ці зроблены з гарбуза, ці з бычага пухіра.У мех устаўлены бурдонныя трубкі, па-беларуску "гукі", якіх магло быць ад адной да шасці штук, і адна, альбо дзве меладычныя трубкі-жалейкі з адтулінамі.

У кожнай краіне існаваў свой тып інструмента і адрозніваліся яны і колькасцю бурдонных трубак, і тым як яны пастаўлены—дагары ці долу, з аднага месца яны выходзяць ці з розных...

Беларуская дуда адрознівалася ад гэтых тыпаў, мела свой адметны выгляд і гучанне. І трэба адзначыць, што тып інструмента, які характэрны для Беларусі, быў распаўсюджаны і ў Літве, і ў Латгаліі—дакладана на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага /Латгалія і Інфлянты доўгі час уваходзілі ў склад ВКЛ/.І таму я быў бы схільны называць нашую дуду літвінскай /маючы на ўвазе агульную культурную спдачыну Княства/ ў тых ці іншых этнаграфічных адметнасцях, як то ліцвінская дуда з Полаччыны, літвінская дуда з Дзвінска, літвінская дуда з Коўна...

Трубкі для дуды звычайна рабіліся з дрэва, а ражкі—з сапраўднага каровінага ці казлінага рога. Адметнасцю беларускіх дудаў было тое, што ражкі выразаліся з дрэва, часта з бярозы-чачоткі, і перадаваліся ў спадчыну нашчадкам дудара, саму ж дуду клалі ў труну разам з музыкам. Бывала паветраны рэзервуар выраблялся не толькі з казы, але і з барсука ці са скуры цяляці. Гэта магчыма было звязана з разбурэннем у больш позні часы старых міфалагічных схемаў.

*(Гутарку вядзе Анатоль Мяльгуй)*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/

*Рэдакцыйная калегія:*
Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 8. 01. 2002 г.
Наклад 3500 асобнікаў. Замова № 7.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 418 руб., 3 мес.- 1254 руб.
*Кошт у розніцу:* 120 руб.